# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 46 (925) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 18 ЛІСТАПАДА 1973 г. ЦАНА 60 гр.

## ПАЛАЖЭННЕ АБ ВЫБАРАХ

Выбары ў рады нарадовыя, запланаваныя на 9 снежня, адбудуцца ў час дынамічнага развіцця палітычнага і эканамічнага жыцця ў краіне. Будуць гэта першыя выбары пасля асноўнай рэформы, звязанай з утварэннем новых гмін. Упершыню пасля больш дзесяці год выбары ў рады нарадовыя будуць адбывацца асобна ад выбараў у Сейм, што дазволіла лепш сканцэнтравацца на мясцовых задачах і на ролі рад у рэалізацыі грамадска-эканамічнага развіцця ўсёй краіны. Выбары будуць адбывацца ў час вялікай работы над удасканальваннем сістэмы эканомікі і дзяржавы, што канцэнтруе перадвыбарчую дыскусію на праблематыцы далейшага павелічэння эфектыўнасці сістэмы рад. Выбары ставяць асабліва вялікія патрабаванні да трапнага падбору радных, паколькі ўсё больш складаныя задачы ставяцца перад мясцовымі органамі ўлады.

Выбары адбываюцца на аснове палажэння аб выбарах (ардынацыі), да якога Сейм нанёс у апошні час многія папраўкі.

У існуючым дагэтуль палажэнні аб выбарах зусім не гаварылася аб Фронце адзінства народу, нягледзячы на тое, што спаўняў ён асноўную ролю ў нашай палітычнай сістэме, а асабліва ў выбарчым працэсе. Зараз у палажэнні гаворыцца, што „выбары ў рады нарадовыя ўсіх ступеняў адбываюцца на базе праграмы ФАН, якая з'яўляецца выразам супольнага стаўлення ўсіх свядомых і актыўных грамадзян перад асноўнымі інтарэсамі народа і сацыялістычнай дзяржавы. Кіраўнічай ідэйнай сілай ФАН з'яўляецца ПАРП, а палітычную аснову складае супрацоўніцтва ПАРП з ЗСЛ і СД. У перадвыбарчы перыяд камітэты ФАН арганізуюць публічныя дыскусіі над праблемамі грамадска-эканамічнага развіцця краіны і свайго рэгіёну".

Гэткая фармуліроўка дае як бы дарогу для будучых новых канструкцыйных фармуліровак, якія прадвяшчае пастанова VI З'езду партыі. Што датычыць самога выбарчага права, дык вынікам гэтай фармуліроўкі з'яўляецца ўвядзенне адназначных правіл адносна прапановы кандыдатаў на радных: права на прапанаванне іх маюць толькі „масавыя грамадскія арганізацыі працоўных, рэалізуючыя супольную праграму ФАН". Але гэтыя арганізацыі не прапануюць спіскаў (ліст) кандыдатаў. Толькі і выключна на аснове прапаноў арганізацый зацвярджае і прапануе спіскі кандыдатаў уласцівы камітэт Фронту адзінства народу.

Значна пашырыліся прынцыпы сацыялістычнай дэмакратыі ў сістэме рад. Павялічыліся лікавыя склады рад. І так: ваяводскія рады будуць мець 100-180 радных (Беластоцкая ВРН — 120 членаў, гэта значыць, на 20 больш, чым у папярэдняй кадэнцыі), ПРН — 60-80, (горад Беласток і Беластоцкі павет — па 80, а Ломжынскі, Бельскі, Сувальскі паветы — па 75 радных, іншыя менш), ГРН — 20-50, а супольная рада для горада і гміны — 30-70 радных.

У палажэнні аб выбарах ясна гаворыцца, што камітэты ФАН перад зацвярджэннем спіскаў кандыдатаў на радных абавязаны правесці сходы і запытаць у выбаршчыкаў пра іх думку на тэму прапанаванага кандыдата. Такім чынам кансультацыі з насельніцтвам сталі законам.

Ранейшае правіла, што выбранымі з'яўляюцца тыя кандыдаты, якія ў сваёй выбарчай акрузе атрымалі найвялікшую колькасць сапраўдных галасоў, дапоўнена дадатковым патрабаваннем, што апрача таго ў галасаванні павінна прыняць удзел прынамсі палова выбаршчыкаў данай акругі. У акрузе, у якой

(Працяг на стар. 5)

## У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

30 кастрычніка г.г. адбылося пасяджэнне Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП у Беластоку, прысвечанае актуальнаму стану і перспектывам нацыянальнага школьніцтва на Беласточчыне ў святле прадпасылак школьнай рэформы.

Інфармацыю па гэтаму пытанню зрабіла Куратория школьнай акругі ў Беластоку. У гэтым школьным годзе навучанне роднай мовы для няпольскай моладзі вядзецца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў 120 падставовых школах і 4 агульнаадукацыйных ліцэях. Вывучаюць яе 7324 вучні падставовых школ і 907 вучняў сярэдніх школ. У ліцэях (Бельск, Гайнаўка, Міхалова, Пунск) у параўнанні з папярэднім школьным годам колькасць моладзі, якая вывучае родную мову, узрасла на 72 вучні. У школах падставовых зменшылася і колькасць школ, у якіх выкладаецца родная мова, і колькасць вучняў, якія яе вывучаюць. Найбольшы спад наступіў у школьніцтве беларускай меншасці. У параўнанні з 1971/72 школьным годам колькасць школ з навучаннем беларускай мовы зменшылася на 41, а колькасць вучняў,

(Працяг на стар. 3)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**З вопыту начальніка Дубіцкай гміны ● Сустрэчы з землякамі ● Гапка рыхтуецца ў Сопат ● Краязнаўчы слоўнік (Аднога) ● Кандыдат у радныя ● Дзецям трэба памагчы ● Брава, моладзь з Міклашэва! ● Наш добры сябра ● Весткі з Крывой, Старога Корніна, Шудзялава, Малінnікаў, Баброўнікаў, Міхалова, Бельска і інш. ● Песня „Przygoda z Marią".**



*Саколка.* *Фота Я. Цялушэцкага*




Паляўнічы сезон ужо ў поўным разгары. Але наша размова ў Ваяводскім праўленні Польскага паляўнічага саюза (ПЗЛ) у Беластоку з яго старшынёй **Стэфанам Жмійкам** і сакратаром **Юзэфам Пазнанскім** амаль не кранае прыемнасцей здаровага адпачынку, што прыносяць паляванні членам 90 паляўнічых гурткоў, у якіх згуртаваны 2100 паляўнічых Беласточчыны. Аказваецца, што паляўніцтва — гэта значная гаспадарка, вынікі якой адыгрываюць паважную ролю ў эканоміцы ўнутры нашага ваяводства і краіны, а таксама ў польскім замежным гандлі. Вось жменька лікаў.

У мінулым 1972 годзе Беластоцкае прадпрыемства лясной прадукцыі „Лес" набыло ад нашых паляўнічых 153,6 тоны ўпаляваных дзікіх звяроў на суму звыш 19 мільёнаў 900 тысяч злотых, з гэтага прадало яно на экспарт у заходнія краіны 135 тон на суму 15 мільёнаў 150 тысяч злотых. Апрача гэтага прадпрыемства даставіла на экспарт 4 700 жывых зайцоў на суму 4 мільёны 700 тысяч злотых і бітага дзікага птаства на суму 500 тысяч злотых на экспарт і на 50 тысяч злотых на ўнутраны рынак. Што ж, лікі гэтыя надта красамоўныя — звыш 20 мільёнаў злотых за гэты экспартны тавар, які на замежных заходніх рынках пакупнікі бяруць нарасхват!

Але гэта яшчэ далёка не ўсё. Прадстаўніцтвы нашага „Орбісу" прадаюць у заходніх краінах таксама паляўнічыя „выстралы". Так, не здзіўляйцеся, іменна — выстралы. За восем год (з 1964 па 1972 г.г.) „Орбіс" прадаў у дзяржаўных лясах на Беласточчыне 1159 „выстралаў" на суму 7 мільёнаў 710 тысяч злотых у заходняй валюце. І гэта толькі за выстралы, рогі і арганізацыю паляванняў. Бо за ўпаляваную дзічыну былі дадатковыя аплаты. Штогод наведваюць беластоцкія лясы 80 — 100 заходніх паляўнічых, а ў мінулым годзе было іх 117 асоб (з ФРГ, Аўстрыі, Бельгіі, Францыі, Даніі, ЗША, Бразіліі і іншых краін). Ужо ў 1973 годзе заходнія паляўнічыя за свае стрэлы на Беласточчыне пакінулі звыш 1 мільёна 500 тысяч злотых. Варта заўважыць, што на захадзе паляванні ў Польшчы карыстаюцца аграмаднай папулярнасцю, за іх проста б'юцца заходнія паляўнічыя.

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ ХРОНІКА

### ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ 50-АЙ ГАДАВІНЕ ЎТВАРЭННЯ КПЗБ

19 кастрычніка г.г. прэзідыум праўлення варшаўскага аддзела БГКТ арганізаваў у сваім памяшканні на вул. Сенатарскай 8 урачысты вечар, прысвечаны 50-ай гадавіне ўтварэння Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

На вечары з цікавым дакладам аб утварэнні і дзейнасці КПЗБ выступіў былы дзеяч КПЗБ тав. Уладзімір Станкевіч.

Дакладчык падзяліўся таксама з прысутнымі сваімі ўспамінамі аб дзейнасці ў падпольным рэвалюцыйным руху ў санацыйнай Польшчы на тэрыторыі Гродзеншчыны і Беласточчыны.

З цікавымі ўспамінамі выступілі на вечары былы член ЦК і Сакратарыята ЦК КПЗБ — Самуіл Малько, а таксама былыя дзеячы КПЗБ тав. Аляксандра і Сцяпан Бергман.

**В. Ш.**

### ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БССР

26 кастрычніка г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся надзвычай цікавы вечар, прысвечаны эканамічнаму развіццю Савецкай Беларусі.

Са змястоўным дакладам „Развіццё эканомікі БССР на працягу апошніх дзесяці гадоў" выступіў мгр Юры Туронак.

Даклад выклікаў жывое зацікаўленне прысутных, задавалі яны шмат пытанняў дакладчыку Ю. Туронку, на якія ён вычарпальна адказваў, што сведчыць аб дасканалым веданні тэмы. **В. Ш.**

### НАБОР У „ВАСІЛЁЧКІ"

Папулярны хор „Васілёчкі", які працуе пры бельскім аддзеле БГКТ, аб'яўляе набор новых харыстаў. Адначасова аб'яўляецца набор кандыдатаў у танцавальную групу, якая ствараецца пры хоры.

Запісвацца трэба ў аддзеле, вул. Жвіркі і Вігуры 8/10 у гадзінах ад 8 да 15, або на рэпетыцыях хору ў аўторкі ў 19 гадзін.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ПАВЯТОВАГА АДДЗЕЛА БГКТ У БЕЛАСТОКУ

23 кастрычніка г.г. адбылося чарговае шостае пасяджэнне прэзідыума павятовага аддзела БГКТ у Беластоку. На парадку дня стаялі наступныя справы: 1) падрыхтоўка да справаздачнай кампаніі ў гуртках БГКТ Беластоцкага павету, 2) аналіз уплочвання членскіх складчын за гэты год, 3) стварэнне арганізацыйнага камітэта па справах конкурсаў „Беларуская песня — 74" і самадзейных драматычных калектываў. Адначасова прэзідыум дакладна пазнаёміўся з абавязваючымі правіламі конкурсаў і абмеркаваў падрыхтоўку і правядзенне іх у Беластоцкім павеце. Члены прэзідыума прынялі на сябе адпаведныя заданні і адказнасць за іх выкананне. Пасяджэнне праходзіла пад старшынствам сакратара аддзела Яўгінні Іванюк. (мг)

суму 2,5 мільёна злотых. Нямала, праўда? Але затое колькі звяроў і птушак было выратавана ад галоднай смерці! З вялікай дапамогай тады прыйшло ўсё наша грамадства, асабліва школьная моладзь вельмі дбайна падкормлівала дзічыну. Наогул жа ўсе паляўнічыя гурткі — гэта добрыя гаспадары, але асабліва добрай гаспадаркай выдзяляюцца гурткі ў Дзяніскаx Бельскага павету і ў Кляшчэлях Гайнаўскага павету.

— Таварыш старшыня, якія задачы цяпер ставяць перад сабою паляўнічыя Беласточчыны?

— Сёлета Польскі паляўнічы саюз пераняў ад дзяржаўных лясоў усю паляўнічую гаспадарку, — інфармуе С. Жмійка. — Таму нашыя паляўнічыя павінны добра папрацаваць пры гадоўлі і ахове дзічыны. І перш за ўсё — дробнай: зайцаў, курапатак, фазаноў. Асабліва фазаноў. Толькі ў бягучым годзе мы купілі ў спецыяльных гадаўляных фермах 5 тысяч фазанят і выпусцілі іх на Беласточчыне. Фазан — гэта сапраўдны прыяцель і памочнік селяніна, ён масава знішчае каларадскага жука (стонку) і іншых шкоднікаў. Але гэта птушка надта даверлівая, часта жыве і гнездзіцца каля людскіх сялібаў. Драпежнікі, каты-валацугі ды спушчаныя сабакі знішчаюць вельмі многа фазаноў. Таму маем вялікую просьбу да моладзі і дарослых, каб апекаваліся гэтай птушкай. І не толькі ёю, бо апекі вымагаюць таксама курапаткі, качкі, дзікія звяры. Нельга ставіць петляў ды пастак, трэба зважаць у часе сенакосу і жніва, каб не нішчыць маладняку, у снежныя марозныя зімы — неабходна падкормліваць дзічыну.

Праўда, некаторыя звяры, асабліва дзікі, робяць шкоду на сялянскіх палетках. Таму членам нашага саюза трэба праводзіць як мага болей паляванняў якраз восенню, калі на палях даспявае ўраджай. Ужо ў гэтым годзе Польскі паляўнічы саюз са сваіх фондаў аплочвае 10 працэнтаў ад сумы, якая выплочваецца сялянам за нанесеную звярамі шкоду на палях, а ў будучым годзе будзе выплачваць 50 працэнтаў. Паляўнічыя будуць імкнуцца, каб кошты былі меншыя, значыць — будуць больш дбайна ахоўваць сялянскія палеткі ад звярыны.

— Вашыя пажаданні беластоцкім паляўнічым?

— Добрых вынікаў у гадоўлі і ахове дзічыны, а таксама — цэльных стрэлаў.

Гутарыў **Мікалай Гайдук**

# ПАЛАЖЭННЕ АБ ВЫБАРАХ

(Працяг са стар. 1)

выступіць недастатковая прысутнасць выбаршчыкаў, трэба праводзіць новыя выбары, прычым камітэт ФАН мог бы тады прадставіць гэты самы або новы спісак кандыдатаў.

Як вядома з канстытуцыі, адкліканне радных гэта адзін з асноўных прынцыпаў нашага грамадска-палітычнага ладу. Аднак дагэтуль спосаб адклікання радных быў настолькі складаны, што ні разу з гэтага ніхто не карыстаўся. Найчасцей адбывалася гэта шляхам пагашэння мандатаў раднага радаю. Зараз выпадкі адклікання радных моцна абмежаваны. Можна раднага адклікаць толькі ў трох выпадках: калі суд выдаў правамоцны прыгавор за злачынства, калі адмовіўся ён скласці шлюбаванне, або не паступаў згодна з гэтым шлюбаваннем. Адкліканне раднага можа адбыцца толькі пры непасрэдным звароце да выбаршчыкаў.

Камітэт ФАН па ўласнай ініцыятыве, па прапанове выбаршчыкаў або арганізацыі, членам якой з'яўляецца радны, можа выступіць да рады нарадовай, каб тая звярнулася да выбаршчыкаў у справе адклікання раднага. Калі рада такой прапановы не прыме, тады камітэт можа адклікаць да рады вышэйшай ступені. Рада можа прыняць прапанову толькі большасцю — 2/3 галасоў. Выконваючы такую пастанову, камітэт ФАН праводзіць сходы ў данай выбарчай акрузе, паведамляючы аб гэтым выбаршчыкам. Галасаванне на сходах у асноўным павінна быць яўным, але, калі выбаршчыкі захочуць, можа быць і тайным. Калі большасць выбаршчыкаў на сходах будзе за адкліканне раднага, дык тады рада сцвярджае скасаванне (пагашэнне) мандату. З вышэй сказанага вынікае, што рашэнне ў справе адклікання перасунулася на саміх выбаршчыкаў; працэдура гэта не складаная, а патрапуе гэтаму ўсяму камітэт ФАН, які кандыдатуру раднага прадставіў і павінен адразу рабіць усё, каб такія сітуацыі не здараліся.

Змены, аб якіх мы вышэй сказалі, гэта праява пашырэння сацыялістычнай дэмакратыі і павелічэння адказнасці за даверанныя функцыі.

**А. Карпюк**

# ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




*Ой, там за горамі сніжок білюсенькі —*
*Ходіў до дівчыны козак молодэнькі.*
*Ходіў і любіў і хотіеў бы еі браті,*
*А тое дівчыны нэ пускае маті.*
*— Позволь жэ мніе, маті, колодэць копаті,*
*Чы нэ прыйдэ дівчына водіці браті,*
*Все дівчата ідут водіці браті,*
*А мое дівчыны нэ пускае маті.*
*— Позволь жэ мніе, маті, цэркоўку строіті,*
*Чы нэ прыйдэ дівчына Богу молітісь?*
*Все дівчата ідут то й Богу молітісь,*
*А мое дівчыны нэ пускае маті.*
*— Позволь жэ мніе, маті, на лаўцы лежаті,*
*Чы нэ прыйдэ дівчына по мніе плакаті?*
*Все дівчата ідут то й по мніе плакаті,*
*А мое дівчыны нэ пускае маті:*
*— Іді, доню, іді, доўго нэ бавісе,*
*Як зайдэш дохаты, Богу помолісе.*
*Дівчына, як рожа, на порог ступіла,*
*Біелые ручкі назад заломіла:*
*— О, гэтые ножкі до мэнэ ходілі,*
*О, біелые ручкі — подаркі носілі.*
*О, алые губы мэнэ ціловалі,*
*А чорные бровы на мэнэ моргалі!*
*Учуў тое хлопэць і з лавы схваціўсе,*
*Молодуй дівчыні за шыю ўчэпівсе.*
*— Подай, маті, шубу, поїедэм до шлюбу!*
*Нэхай тая слава по ўсём свіеті будэ!*
*Нэхай тая слава по ўсём городочку,*
*Што жыва з умэршым гуляе в садочку!*
*Нэхай тая слава по ўсём городочку,*
*Што жыва з умэршым гуляе в садочку.*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

Песню спявалі пераважна на вечарынках пры пражы кудзелі.

# ЗМС і ЗСМВ БЕЛЬШЧЫНЫ

Павятовыя праўленні Саюза сацыялістычнай моладзі (ЗМС) і Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі (ЗСМВ) у Бельску маюць супольнае памяшканне і супольныя справы. Старшыня павятовага праўлення ЗМС Павел Апалінскі і старшыня павятовага праўлення ЗСМВ Янка Лявоцюк, гэта маладыя энергічныя людзі, здольныя арганізатары. Амаль штодзённы абмен вопытам памагае ім плённа працаваць.

ЗМС, напрыклад, добра правёў акцыю „Лета", у якой прыняло ўдзел 488 асоб. 101 чалавек пабываў у ЗМС-оўскіх лагерах у Борках і Студзенічным, 27 — паехала на экскурсіі ў СССР, Венгрыю, Балгарыю, Чэхаславакію, ГДР. 360 чалавек удзельнічала ў акцыі „Лета" ў горадзе. Моладзь наведала месцы народнай памяці (рэйды арганізоўваліся супольна з ПТТК), наладжвала суботнія безалкагольныя забавы (супольна з павятовым антыалкагольным камітэтам). Была там і песня, і згадуй-згадуля, і дэкламатарскія выступленні.

ЗСМВ у той час шмат увагі прысвячаў акцыі „Кожны колас на вагу золата". Шмат было аказана дапамогі старым жыхарам вёсак падчас жніва. ЗСМВ арганізаваў так званыя тэрэновыя гуфцы працы. Налічваецца іх зараз у павеце аж 145. ЗМС-оўцы пасадзілі 30 тысяч дэкаратыўных дрэўцаў у вёсках і на дарогах, заняўшы першае месца ў ваяводстве.

ЗСМВ з'яўляецца ініцыятарам будовы святліц-клубаў. Цяпер будуюцца яны ў 17 вёсках Бельскага павету.

ЗМС-оўцы плануюць цяпер пабудаваць уласны блок. Адну трэцюю ўкладу члены ЗМС-у будуць адпрацоўваць самі. На працягу аднаго года атрымаюць яны кватэры, якія магла б прыдзяліць ім спулдзельня толькі праз дзесяць год.

Як ЗМС, так і ЗСМВ патрануюць над спаборніцтвамі на званне калектыву сацыялістычнай працы, ці (на вёсках) на званне маладога перадавіка сельскай гаспадаркі і майстра сельскагаспадарчай вытворчасці.

Павятовае праўленне ЗМС супрацоўнічае з аддзелам сельскай гаспадаркі прэзідыума ПРН і Беларускім таварыствам. Супольна арганізоўваюцца цікавыя мерапрыемствы. (мх)

### Этнаграфічная адкенца



*Вадзяны млын на рэчцы Нятуп е каля Белагорцаў Сакольскага павету.*
*Фота — М. Гайдук*

## Трэба паварушыць галавой

Я ўжо больш як 10 год выконваю бясплатна абавязкі грамадскага апекуна ў Бельску Падляшскім у раёне № 12. Прыйшла да мяне аднойчы з сваёй суседкай 72-гадовая ўдава, пражываючая на вуліцы Жвіркі і Вігуры № 10, Галена Макацэвіч і паказала мне пастанову суда ад 26 лютага 1972 года. Просіць яна, каб прыспешыць высяленне яе сужыльцоў — Сяргея Чыквіна і Анну Чыквін. Пры гэтым яна дадала, што гэтыя яе суседзі і іх дзеці дакучаюць ёй рознымі спосабамі, нават б'юць яе. Са слязьмі прасіла мяне, каб дапамагчы ёй пазбыцца людзей, якія затручваюць ёй жыццё і зневажаюць старую жанчыну.

Я зрабіў усё, што да мяне належала і па просьбе Е. Макацэвіч пайшоў разам з ёю да намесніка старшыні гарадской рады нарадовай. Ён коратка сказаў, што няма іншага памяшкання і нічога не можа зрабіць, каб залагодзіць гэтую справу. Дадаў толькі, што такіх пастаноў павятовага суда аб высяленні ён ужо назбіраў аж 14 штук. З вялікім жалем Е. Макацэвіч пайшла дамоў і, напэўна, падумала, што вось ужо прайшло больш як паўтара года ад выдання пастановы суда і нічога не зроблена, дык і ў будучыні няма надзеі на лепшае. А ў гэтым выпадку суд як бы траціць свой аўтарытэт, бо выдана пастанова, якую немагчыма выканаць.

Якім чынам задаволіць не толькі справу Е. Макацэвіч, але і ўсе 14 пастаноў, трэба паварушыць галавой. Бо, несумненна, трэба парадкаваць і гэтакія справы людзей, асабліва людзей старых і бездапаможных. **Нестар Перавой**, Бельск

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сход гуртка БГКТ у Гарадочне

7 кастрычніка ў Гарадочне (Гайнаўскі павет) адбыўся сход гуртка БГКТ. Мы выбралі новае праўленне гуртка, якое складаецца з 8 чалавек. Кожны член нашага гуртка рэгулярна выпісвае і чытае „Ніву". Кожны месяц плаціць складчыны.

Ужо апрацавалі мы план, па якім будзем весці працу гуртка.

У нашай вёсцы ёсць школа, малачарня і новая спажывецкая крама. Крама гэта пабудавана ў сучасным стылі і ў сярэдзіне абсталявана па-новаму. Наш гуртох прымаў актыўны ўдзел у яе будове.

У вёсцы нашай жыве самотная жанчына. Яна старая, усё хварэе. Гурток БГКТ пастанавіў памагчы гэтай жанчыне. Мы рашылі забяспечыць на зіму яе хату, каб цяплей было, нарыхтаваць ёй дроў і замесці панадворак.

**Валя Ціханюк**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Гарадок у Залуках

Гарадоцкі жаночы мастацкі калектыў выступіў у Залуках (15 км ад Гарадка) у сувязі з 30-ай гадавінай Войска Польскага. Перад выступленнем адбыўся сход мясцовага гуртка БГКТ.

1,5-гадзінная праграма складалася з вайсковых і партызанскіх, а таксама з жартоўных гарадоцкіх і народных песень. На заканчэнне адбылася супольная сустрэча і размова гасцей і гаспадароў пры шклянцы чаю.

Выступленне адбывалася ў Залуках у школе, якой кіруе дырэктар Францішак Апановіч. Праграму падрыхтавалі Сцяпан Копа і ніжэй падпісаная.

Нашы актывісты адкапаліся ўжо з бульбай і таму можам паехаць дзе-куды. Бо і запрашаюць нас. Ужо маем вызначаны дзень у Крынкі, а потым паедзем у Новую Волю, адкуль тамашні гурток БГКТ прыслаў запрашэнне, каб іх наведаць.

**Ніна Мушынская,**
Гарадок




### „АТВЕТ НА АТВЕТ"
### У СПРАВЕ ГУЛЬТАЁЎ І АБІБОКАЎ

На сваім стаю, Кузьма,
Абібокаў ў нас няма,
Ні ў Патоцы, ні ў Бялок
Не ўдзяржыцца абібок.
Гэты утрапены люду
Родзяцца і ў нас, як ўсюды,
Да год сталых дарастуць,
Стрымгалоў у горад пруць.
Гэтак ў вёсках ёсць і будзе —
Застаюцца ў вёсках людзі
Толькі добрае работы,
Не страшныя ім клапоты.
Гультаю жыць у горадзе,
Так, як рыбе ў вадзе.
Вось таму табе й не дзіва,
Дзе грошы бяруць на піва.
„Зарабляюць" — ты сказала.
А як, дзе — не расказала —
Разумею — зарабляць,
Неабходна працаваць.
Гэта ж ў гультаёў нямодна!
Жыць без працы і выгодна —
Вось дык лозунг гультая,
Гэтак разумею я.
Немагчыма, то здаецца,
Ім аднак гэта ўдаецца.
Прыклад: знайдзе спелу бабку,
Пацалуе ўмела ў лапку —
Ці то дзеўцы, ці ўдаве —
Што алей у галаве,
І тая лодыра гадуе,
Пакуль лодыр не надуе,
Вакол пальца абвядзе,
Кіне, й да другой ідзе.
Несумленныя і лжывы,
Спецы лёгкае нажывы —
Дзе што свісне ды прадасць,
Дзе пазычыць й не аддасць,
На ўсе бокі махляры.
Гэтакі не пашкадуе —
Бацьку роднага надуе,
Абы здобыч, абы зыск,
Здольны гультаі на рыск,
На грошы лакомы-ласы,
Робяць ўзломы, чысцяць касы,
Ломяць дзверы, крышаць рамы
Акрадаюць дамы, крамы —
Гэтак яны зарабляюць.
З крыўды людскай грошы маюць,
Не працуюць й піва п'юць,
Паразітамі жывуць.
І з-за іх жыцця, Кузьма,
Згоды ў нас з табой няма,
Як відаць па ўсім, й не будзе.
Хай разважыць огул, людзі,
Хто не праў, ці праў із нас
Па, Ірэнка,

**Дзядзька Квас.**

## Ездзіць, як хоча

Аўтобус, які курсуе раніцай ў 6 гадзін 12 мін. з Кляшчэляў у Гайнаўку, часта ўвогуле не ездзіць. Едуць іншыя пазнейшыя аўтобусы, а гэты не. Гэтым першым аднак ездзяць рабочыя на працу ў Гайнаўку. Ён для іх вельмі зручны. На жаль, чамусьці не трымаецца вызначанага маршрута і не ездзіць па плану, не збірае людзей, якія чакаюць. Рабочыя вымушаны, не дачакаўшыся аўтобуса, ісці на станцыю Вітава на поезд — 4 км дарогі і страта часу ў рабоце.

Ці гэтак павінна быць?

**М. Панфілюк**

## Аўтарскі вечар у Грэдалях

З выпадку дзён тэхнічнай кніжкі і прэсы ў святліцы ў Грэдалях адбылася сустрэча з аўтарам Баляславам Казноўскім, які цікава расказаў пра сваю пісьменніцкую працу і пра цяжкую, але прыгожую прафесію лётчыка. Сярод слухачоў было многа асоб, якія прачыталі кніжку гэтага аўтара „Няма пяхоты".

На заканчэнне вечара дзявочы калектыў з Грэдалёў выканаў некалькі прыгожых песень.

Арганізатарам аўтарскага вечара былі аддзел „Рух" у Бельску Падляшскім і бібліятэка ў Грэдалях.

**Наглядальнік**



## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 16 год. Сама я з вёскі, але цяпер вучуся ў горадзе ў другім класе агульнаадукацыйнага ліцэя. Жыву ў інтэрнаце і дадому езджу не часта. Але нядаўна ў нашай вёсцы быў фэст і я туды паехала. Была гучная забава і моладзі таксама было вельмі многа. На гэтай забаве я пазнаёмілася з Коляй. Яму 18 гадоў. Ён жыве ў суседняй вёсцы, але дагэтуль я яго не бачыла, хоць ён кажа, што ўжо бываў у нашай вёсцы і на мяне вока даўно меў. Але ўсё нейк саромеўся падыйсці. Коля мне вельмі спадабаўся. Я яго пакахала і ён гаварыў, што мяне кахае. На наступны дзень я паехала ў горад і ўжо мы больш не бачыліся. Ад'язджаючы, я яму падала свой адрас і ён мне напісаў ужо два лісты. Усё было б добра, але непакоіць мяне тое, што Коля закончыў толькі пачатковую школу і далей не думае ісці вучыцца. У яго добрая гаспадарка, ён у бацькоў адзін і кажа, што застанецца на вёсцы. Мне вельмі сумна без яго. І я задумоўваюся, ці не кінуць школу і не вярнуцца на вёску. Хоць крыху шкада, бо з навукай цяжкасцей я не маю. Колю я кахаю і калі б я была на вёсцы, дык мы часта спатыкаліся б і праз пару гадоў маглі б пажаніцца. Аб гэтым мне Коля гаварыў. А так, дык невядома, як будзе. Сама не магу вырашыць, як паступіць і таму прашу ў цябе, „Сэрцайка", парады.

**Галя з Беласточчыны**

**Галя!** Абое вы яшчэ дзеці і дзіцячыя, надта непаважныя вашы разважанні аб жыцці, а ўжо аб замужжы, калі табе яшчэ толькі 16 гадоў, дык увогуле няма чаго гаварыць. Гэтыя вашы планы могуць у будучыні аказацца такімі крухкімі, як дрэва, прыгожае звонку, але ў сярэдзіне — парахно. Мацнейшы вецер павее з іншага боку і трах! Зламалася, развалілася. Дарасцеш да поўных гадоў, дык і сама гэта зразумееш. А цяпер — на першым плане навука! Школу закончыць абавязкова мусіш, тым больш што вучоба, як сама кажаш, не прыходзіць табе цяжка. А тады падумаеш, у горадзе застацца, ці на вёску вярнуцца. Ды і Колю да навукі нагаварвай. Хай у сельскагаспадарчую школу ідзе. Гэта ж неабходна сучаснаму маладому гаспадару. Нельга ж бясчынна марнаваць маладыя гады. А што вы нячаста спатыкаецеся, дык на пацяшэнне дадам, што, кажуць, каханне на адлегласць мацнейшае.

**„Сэрцайка"**

## Сустрэча ў міхалоўскім ліцэі

У сувязі з 30-годдзем Войска Польскага ў сельскагаспадарчай школе ў Тапалянах, Беластоцкага павету, адбылася сустрэча з былым салдатам Войска Польскага, які амаль ад пачатку яго заснавання да заканчэння вайны быў удзельнікам многіх баёў. Цяпер гэты чалавек — Ян Леўша — працаўнік тэкстыльнай фабрыкі ў Міхалове, адзін з найактыўнейшых дзеячоў ЗБоВіД Міхалоўскай гміны.

Прысутнічала на гэтай сустрэчы ўся моладзь школы і настаўнікі. Яны з вялікім зацікаўленнем слухалі расказ аб падзеях на фронце.

Варта адзначыць, што Ян Леўша за баявыя заслугі атрымаў многа ўзнагарод і медаляў, якія моладзь на сустрэчы аглядала разам з дакументамі аб узнагародах.

Падобная сустрэча адбылася таксама з маёрам Войска Польскага. Маёр расказаў аб магутнасці сучаснага Войска Польскага, яго тэхніцы, абавязках і г.д. Адказваў таксама на шматлікія пытанні школьнай моладзі.

**Мікола Краўчук,**
Патока

## Як доўга будзе ляжаць гэты попел?

На палове дарогі з Рыбалаў у Канюкі, ў т.зв. даліне, ад пачатку мінулай зімы ляжыць вялікая горба попелу — попелу, які ўжываецца ў сельскай гаспадарцы да пасыпання кіслых глеб. Гэта каштоўнае штучнае ўгнаенне. Попел гэты, відаць, вёз трактар на прычэпе або грузавы самаход, і невядома толькі, чаму тут яго высыпалі. Яго тут ляжыць каля тоны. Частка расплылася з даждкамі. Прайшла зіма, прайшла вясна, лета вось і другая зіма прыходзіць, а попел ляжыць, як ляжаў.

І не знайшлося нікога, каб пацікавіцца гэтай справай. Мясцовыя ўлады таксама не бачылі і не бачаць гэтага марнатраўства.

А попел жа патрэбны! Высеяць бы яго на поле, колькі больш вырасла б дабра. Цікава, як доўга яшчэ гэты попел будзе гэтак ляжаць і хто яго і навошта сюды высыпаў на змарнаванне?

**М. Матвеюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### Бруднага піва не прадаваць!

**АДКАЗВАЕ:**

**Powiatowy Związek Gminnych Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Hajnówce.**

W nawiązaniu do opublikowanej notatki w „Niwie" p.t. „Brudne piwo", oraz Waszego pisma z 6.X. 1973 r. wyjaśniamy, że po zbadaniu sprawy na miejscu w WWGiRP w Kleszczelach, oraz w sklepie Toporki, stwierdziliśmy, że sprzedaż i zwrot nieodpowiedniej jakości piwa z w/w sklepu miały miejsce. Z oświadczeń kierownika WWGiRP w Kleszczelach wynika, że wystąpiła wymiana piwa z poprzedniej dostawy i nie z muchami, lecz z wytrąceniami. Powstało to z tego względu, iż sklep w Toporkach pobiera piwo w dużych ilościach i rzadko, np. w mieciącu wrześniu pobrał tylko trzy razy tj. 3.IX., 6.IX., i 21.IX. 1973 r. a przechowywane piwo w nieodpowiednich warunkach (sklepie) ulega zepsuciu się ze względu na długi okres przechowywania. Zgłoszenie reklamacji przez sklepową nastąpiło 5 dni po dostawie. W/w wyjaśnienia potwierdzają się również z wyjaśnieniami sklepowej i korespondenta Ob. Tichoniuka. Ponadto nadmieniamy, że w okresie sezonu Zakłady Piwowarskie w Białymstoku dostarczają piwo bardziej młode tj. niedojrzałe, które bardzo szybko ulega zepsuciu, czyli powstaje wytrącenie białka i drożdży, w związku z tym nie może stać dłużej niż dwa trzy dni.

Potwierdza się to również tym, że przy dostawach z browaru są zwroty zepsutego piwa po kilka beczek (np. 26.IX.1973 r. zwrot dwóch beczek piwa).

Jednak mimo w/w wyjaśnień Zarząd PZGS w Hajnówce polecił Zarządowi GS w Kleszczelach polecenie osobom odpowiedzialnym, aby towary złej jakości, zanieczyszczone i brudne nie trafiały do detalu i konsumentów, a za stwierdzone w prasie niedociągnięcia wyciągnął wnioski służbowe od kierownika WWGiRP oraz sklepowej.

Ponadto zobowiązał Zarząd GS o wyeliminowanie podobnych spraw na przyszłość. W przypadku ponownego stwierdzenia takich faktów zastosujemy wyciągnięcie ostrych wniosków służbowych od osób winnych, do zwolnienia z zajmowanego stanowiska włącznie.

Uważamy, że podobne sprawy na przyszłość nie wystąpią.

Podpisał:
**Pełnomocnik Zarządu PZGS**
**d/s Produkcji i Usług**
**(—) A. Romaniuk**

Дзякуем за адказ.




**Васіль Асеннік** — Спічкі, **Віктар Бура** — Гайнаўка, **Мікалай Краўчук** — Патока, **Уладзімір Хомік** — Слоя. Дзякуем за прысланыя інфармацыі.

**Сцёпа Палаўянюк** — Бельскі беларускі ліцэй. Верш і тэматычна, і па форме не з'яўляецца ўдачным, замала было працы над ім.

**Люцына Янушкевіч** — Бельскі беларускі ліцэй. Адносна верша — задума вельмі цікавая, але выдаецца незакончанай. Варта над ёю папрацаваць. Дашліце іншыя вашы творы — вершам і прозай, маючы больш матэрыялу, пастараемся з поўнай адказнасцю ацаніць вашы літаратурныя пошукі.

**Анна Дзенісюк** — Плёскі. Верш на плёскаўскай гаворцы выйшаў нядрэнна, надрукуем. Дашліце і тое, што пішаце прозай, разгледзім, ацэнім.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Sacco i Vensetti" (włoski), 20—21. „Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), 22—23. „Wynajęty człowiek" (USA), 24—25.

**Чаромуха**
„Matka" (radz.), 20—21. „Ktoś za drzwiami" (franc.), 24—25.

**Кляшчэлі**
„Efii Briest" (NRD), 20—21. Najlepsze lata w życiu mężczyzny" (węgierski), 22—23. „Hubal" (polski), 24—25.

**Нараўка**
„Czarownica z bagien" (radz.), „Tajemniczy mnich" (radz.), 21—25.

**Нарва**
„Dwója z wychowania" (radz.), 21—25.

**Чыжы**
„Iwan Groźny" (radz.), 21—25

**Дубічы Царкоўныя**
„Woda życia" (radz.), „Berlin" (radz.), 21—25.

**Арэшкава**
„Woda życia" (radz.), „Był sobie dziad i baba" (radz.), 24—25

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Haszek i jego Szwejk" (radz.), „Wiryneja" (radz.), 21—25.

**Райск**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), „Kocham cię" (radz.), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Przejażdżem przez Moskwę" (radz.), 24—25.

**Міхалова**
„Bariera ognia" (radz.), 20—21. „Serce to samotny myśliwy" (USA), 22—23. „Śmierć na zakręcie" (NRD), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Zdradzieckie gry miłosne" (radz.), „Lampy naftowe" (radz.), 21—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Siedemnasty równoleżnik" (radz.), 20—21. „Wkrótce będzie koniec świata" (radz.), 22—23. „Wesele" (radz.), 24—25.

**Мілейчыцы**
„Śmiałość" (radz.), 20—21. „I pozdrawiam jaskółki" (radz,). 22—23. „Zazdrość i medycyna" (polski), 24—25.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicysci 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.669 K-3

